**Людзьмі звацца!**
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 20
Лістапад
2012 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

**ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА**

## Адстаём...




Беларусь адстае па сярэдніх заробках амаль ад усіх суседзяў (глядзі карту). Колькі, паводле афіцыйных падлікаў, зарабляюць беларусы, а колькі жыхары суседніх краін?

Прыбалты і расіяне трымаюцца прыблізна на адным узроўні ($ 780-880). А вось палякі па-за канкурэнцыяй – толькі яны адны перайшлі мяжу ў $ 1000. Дадзеныя ўзятыя з сайтаў статыстычных ведамстваў краін. Яны паказваюць зарплаты да выплаты падаткаў. Паколькі нарматывы і хуткасць працы ў кожнай статыстычнай арганізацыі розныя, ўдакладнім, што для Літвы і Латвіі указаны зарплаты за другі квартал 2012 года, для Польшчы – за трэці квартал, а вось Беларусь, Расія і Украіна падаюць дадзеныя за верасень 2012 года.

## Страты...

У Беларусі па выніках працы за студзень-верасень 2012 г. стратнымі былі 495 арганізацый. Гэта 5,8% ад агульнай колькасці арганізацый, якія ўлічваюцца ў бягучым парадку. У студзені-верасні 2011 г. стратнымі былі 579 арганізацый, ці 6,8%. Пра гэта паведамляе Нацыянальны статыстычны камі-



тэт. Сума чыстай страты стратных арганізацый за студзень-верасень 2012 г. склала 2,5 трлн. рублёў, што на 37,2% больш, чым за студзень-верасень 2011 г. Найбольшы адсотак (ад агульнай колькасці) стратных прадпрыемстваў прыпадае на Мінск - 28,1%, Брэсцкую - 17,2% і Віцебскую вобласць - 15,5%.

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*
Паводле "НН", АФН.

# Віцэ-прэм'ер Міхаіл РУСЫ:
## "У вяскоўцаў ёсць машыны, трактары і магчымасць адпачынку на моры"

### Навіна і каментарыі

Міхаіл Русы ў інтэрв'ю газеце «Звязда» заявіў, што за апошнія 5 гадоў змянілася не толькі беларуская вёска, але і яе жыхары. Здароўе вяскоўцаў лепш, чым гараджан. Свежае паветра, экалагічная ежа і чыстая вада сталі ледзь ці не самай дарогай раскошай ў свеце, але для нас, па словах Русага, гэта штодзённасць.

*«Што такое беларускі вясковец сёння?* - Задаецца пытаннем віцэ-прэм'ер. - *Гэта малады, прыгожы, упэўнены ў сабе чалавек, добры гаспадар і сем'янін, рознабакова развіты і з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй. Дастаткова паглядзець на пераможцаў «Дажынак», каб пераканацца ў гэтым. Як правіла, жыве ён у прасторным доме з газавым ацяпленнем і цэнтральным вадаправодам, мае легкавы аўтамабіль замежнай вытворчасці 7-10 гадоў эксплуатацыі, трактар і грузавую тэхніку на ўласным двары. На жаль, вясковец, у адрозненне ад гарадскога жыхара, не можа так жа вольна спланаваць свой адпачынак, бо яго праца носіць сезонны характар, і з вясны да восені ён прывязаны да зямлі. Тым не менш, фінансава ён можа сабе дазволіць паехаць з сям'ёй на мора, у курортныя месцы Беларусі ці за мяжу».*

Па словах Русага, паступова аграгарадкі набліжаюць ўмовы жыцця вяскоўцаў да гарадскіх. У буйных вёсках працуюць дома культуры з філарманічным або тэатральнымі пляцоўкамі, бібліятэкі з доступам у інтэрнэт, дзіцячыя школы мастацтваў або класы па мастацкіх спецыяльнасцях, фізкультурна-спартыўныя цэнтры, дамы рамёстваў. Да жыхароў невялікіх вёсак прыязджаюць аўтаклубы, бібліятэкі на колах, перасоўныя відэакомплексы. Што тычыцца талентаў, то вяскоўцы па-ранейшаму могуць даць фору любому гараджаніну. *«Яны, можа, таму што бліжэй да прыроды і каранёў, глыбей адчуваюць прыгажосць і гармонію, больш аптымістычна глядзяць на навакольны свет»,* - сказаў віцэ-прэм'ер.

**На выказванні М.Русага прыйшло шмат водгукаў. Вось некаторыя з іх:**

► **Рэкамендую віцэ-прэм'еру пракаціцца па вёсках не ў выходны дзень і не ў час пасадкі або уборкі ўраджаю, калі ў дапамогу да сваіх старых прыязджаюць на 7-10 гадовых іншамарках маладыя прыгажуны, якія жывуць у гарадах і працуюць за межамі беларускага віртуальнага раю, а ў будні дзень у міжсезонне.**

► **Кожныя выходныя бываю на паляванні: 15-20 км ад абласнога цэнтра і 150-200 метраў на прасёлак– і цывілізацыя канчаецца. Напаўмёртвыя і мёртвыя вёскі, згнілыя платы, перакапаныя дзікамі агароды, убогія крамы і іх адсутнасць; на вясковых вуліцах "садзяцца" нават УАЗы; ёсць вёскі, дзе ніколі не было электрычнасці; людзі апусціліся, крадуць ўсё, што можа ўкрасці – кармы, саляру, метал. Больш-менш дагледжаныя сядзібы, як правіла, у дачнікаў (часта знішчаюць кожную зіму). Практычна поўная адсутнасць хатняй жывёлы і птушкі, збіральніцтва (грыбы, ягады), промысел звера і рыбы (браканьерства). Іншамаркі ёсць – іржавыя кузавы ў гародах, не здадзеныя ў металалом. Праўда, на адным падворку бачыў адзіночнага страуса (якая-ніякая жывацінка), а яшчэ ў аднаго ў хляве з дзясятак адлоўленых янотаў, – "зверавод" чакаў, калі мех выспее. Падобнае на тое, што інавацыйныя тэхналогіі на вёсцы пачалі прыжывацца ...**

► **Да майго цесця ў глухую вёску два разы на тыдзень прыязджае "бібліятэка" і ён рэгулярна бярэ "пачытаць" некалькі бутэлек "добрага" і недарагога віна. Мой цесць кнігі вырабляе сам, так што амаль заўсёды ходзіць такі начытаны, што аж падае ад вагі ведаў.**

► **Хачу ў вёску, пра якую пісаў Русы! Хачу, гэтак жа як і беларускі вясковец, мець машыну, трактар і фінансавую магчымасць адпачываць на моры! Дзе яна, гэтая вёска? Дзе мой дом радной?!**

► **Пачала я гэта ўсё чытаць і адразу перад вачыма "Навіны" у кінатэатры перад фільмам ў 70-ыя гады "развітога сацыялізму": людзі ўсё маладыя, здаровыя, прыгожыя, сцягі ўюцца, дыктар паведамляе аб незвычайных, страшна радасных поспехах і дасягненнях, пра шчаслівае жыццё і поўным дастатку савецкіх людзей... Загадкавы народ, яго хоць у лоб, хоць па лбе – нічому не вучыцца.**

► **У нашай вёсцы многія і не п'юць, і не паляць – аўталаўка не даязджае. За сезон могуць прыстойна зарабіць. Але не ў калгасе, а ў лесе і на возеры. А ўзімку прападаюць пацiху. У мінулым годзе замяло і замарозіла калонкі. Пілі снег.**

► **Ездзіў да сваякоў у вёску, адвёз вопратку. Зарплата трактарыста 140.000 (!) Калі старшыня накіроўвае на працу ў поле – можна зліць дызпаліва, прадаць і зарабіць. Вядома, ёсць прысядзібная гаспадарка, але там толькі для сябе на прадукты, таму і жывыя яшчэ.**

► **З розуму можна сысці ад гэтых слоў чыноўніка! Хай ён паедзе ў глыбінку, а не ў аграгарадок, і паглядзіць як там жывуць людзі. Пра мора не можа быць і гаворкі! Улетку могуць яшчэ выкупацца ў невялікай брудңай рачулцы, але зімой – кранты: лазні няма. Калі хто і мыецца, то ў карыце, як пры бацюшку - цары. А асноўны кантынгент у вёсцы – бабулькі, якія сядзяць на лавачцы і якія ніколі ў жыцці і не бачылі таго мора. Вось такая казка пра вёску.**

► **Я жыву ў вёсцы і бачу, як людзі стаяць у чарзе ў краму – запісацца на "чорны спіс" да палучкі. Як прыязджае машына са шмоткамі і людзі бяруць усё ў доўг. І як працуюць без выходных, перабіваючыся ад палучкі да палучкі. Я яшчэ жыву не ў апошняй вёсцы. Ёсць яшчэ горшыя.**

► **Ну, цяпер зразумела, чаму беспрацоўных мінчан возяць прыбіраць калгасную капусту і буракі: сяляне цэлымі вёскамі на моры адпачываюць па паўгода!**

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*

**Кіраўнік аналітычнага цэнтра "Стратэгія" Леанід Заіка пракаментаваў падпісанне закона аб бюджэце на 2013 год.** ***«Падпісаў і падпісаў. Там прырост ВУП на 8%, інфляцыя менш за 20%. Гэта ўсё – нерэальна. Таму што ў наступным годзе Беларусь сутыкнецца з тым, чаго ў яе ніколі не было. Трэба выплаціць тры мільярды даляраў па даўгах. А за гэтыя грошы можна пабудаваць каля дзесятка такіх нацыянальных бібліятэк, якая ўзведзена ў Мінску. Таму і кошты падымаюцца і будуць падымацца. Паднялі на алкаголь, на малако і хлеб. Што гэта азначае? Азначае, што грошай будзе не хапаць. Расейцы перакрылі кіслярод з нафтай. Кажуць: вярніце нафтапрадукты. А гэта яшчэ два з паловай мільярды мінус. І ўзнікае пытанне: як будзеце вяртаць даўгі, з якіх рэсурсаў? Адказу на гэтае пытанне няма. У бюджэце гэтым на кожнага жыхара Беларусі 3200 даляраў доўгу. На сям'ю з чатырох чалавек – 12800 даляраў доўгу ўжо на сённяшні дзень»,*** **– сказаў эканаміст.**

# План платных паслуг
## або Школьны рэкет па-беларуску

Пра тое, што настаўнікі ў школах прымусова выпісваюць дзяржпрэсу, напрыклад, "СБ", "Настаўніцкую" і ім падобныя газеты, ведаюць многія. А вось тое, як школы выконваюць планы па платных паслугах, яшчэ не стала здабыткам шырокай грамадскасці.

Аказваецца, план зверху спускаюць такі, што выканаць яго можна толькі аддаўшы грошы з свайго заробку. Але цікава, што беларускія настаўнікі ці ледзь не пагалоўна гадамі моўчкі плацяць і толькі адзінкі спрабуюць наракаць.

Напрыклад, кожнай музычнай школе і школе мастацтваў за год трэба аказаць платных паслуг на энную суму. Прычым сумы нават не з пяццю нулямі, а з шасцю! Прапануецца праводзіць канцэрты, капіяваць навучэнцам дакументы і ноты, здаваць у арэнду інструменты, касцюмы і кнігі, навучаць дарослых. Прычым штомесячная аплата навучання сюды не ўваходзіць. Гэта асобны артыкул прыбытку.

Дык вось, калі для гарадской школы не складае адмысловай працы сабраць пару мільёнаў за месяц, то для сельскіх нават мільён – велізарная сума. Але, як правіла, дзе адзін мільён, там і два, і тры, і пяць. Таму, каб выконваць планы па платных паслугах, выкладчыкі аддаюць грошы з свайго кашалька.

*«Дырэктар прызначае адказнага за канцэрт і выдае пачак білетаў. Каму і як я іх прадам, нікога не хвалюе. Гэта ўжо мой галаўны боль,* – тлумачыць настаўнік сельскай музычнай школы. – *З пачатку гэтага навучальнага года, я кожны месяц аддаю са свайго заробку ад 30 да 100 тысяч на кампенсацыю платных паслуг. І гэта пры тым, што больш за 150 тысяч у месяц марную на транспарт, каб дабрацца з горада ў вёску і назад. І гэтыя выдаткі нам не кампенсуюць. Але галоўнае пытанне: хто гледачы на гэтых сельскіх канцэртах? Пенсіянеры, даяркі, трактарысты, пастухі або прадавец мясцовай крамы? Ці жадаюць бацькі пасля працоўнага дня ісці на канцэрт, за які яшчэ і заплаціць трэба 5 або 7 тысяч? Не, вядома! Яны і бясплатна на яго не пойдуць! Яны лепш бутэльку купяць».*

Але больш за ўсё здзіўляе, што за кошт выкладчыцкай зарплаты планы выконваюцца ўжо не першы год, прычым не толькі ў адной школе, а па ўсёй краіне.

*«У снежні мінулага года дырэктар сказаў, што ў нас не выканаеы план па платных паслугах і кожнаму выкладчыку трэба здаць грошы, каля 500 тысяч. Сума ва ўсіх была розная, у залежнасці ад нагрузкі. Чым больш працоўных гадзін, тым вышэй была сума,* – удакладняе выкладчык. – *А на курсах павышэння кваліфікацыі, на якія прыехалі педагогі з усёй краіны, я даведалася, што такая праблема паўсюдная! Калегі таксама здаюць грошы для выканання плана».*

*«Грошы, што налічваюць нам на метадычную літаратуру, я не бачу ўжо некалькі гадоў. Яны ёсць толькі на паперы. Стаўлю подпіс, што атрымала, а на самай справе яны сыходзяць у кошт платных паслуг»,* – падзялілася настаўнік гарадской школы мастацтваў.

*«Усе гэтыя платныя паслугі - адна вялікая паказуха! Але людзі маўчаць, таму што ім патрэбна праца,* – каментуе дырэктар школы мастацтваў гарадскога пасёлка. - *Як мне на платных паслугах зарабіць за год 10.000.000? Гэта велізарная сума! Чаму адным школам, ставяць у план 2 - 3 млн, а іншым - 7 або 12? У мінулым квартале я выканала 2.000.000 замест трох, і мяне пазбавілі прэміі. Але хіба гэта кагосьці хвалюе? Ёсць план - і кропка».*

У абласным упраўленні культуры патлумачылі, як і адкуль бяруцца мільённыя сумы ў планах па платных паслуг:

– *Ёсць абласны план, які размяркоўваецца па раёнах,* – кажа намеснік начальніка ўпраўлення культуры аблвыканкама, – *Мясцовыя аддзелы культуры самастойна вызначаюць, якую суму хто павінен выплаціць. Кіруюцца яны аб'ектыўнымі прычынамі: колькасцю навучэнцаў, колькасцю насельніцтва, катэгорыямі настаўнікаў, нагрузкамі, выкананнем паказчыкаў і г. д.*

– А вы ведаеце, што ў некаторых школах планы выконваюцца з заробкаў настаўнікаў?

– *Гэта няправільна. Гэтага не павінна быць. Трэба разбірацца з кожным выпадкам асобна. У якіх гэта школах такое?*

– Вы тут жа звольніце гэтых людзей, дадзіце ім вымовы або пазбавіце прэмій ...

– *Нікога мы не звольнім. Мы жывем у праваой дзяржаве. За што можна даць вымову настаўніку, калі ён выконвае свае абавязкі ў рамках працоўнага дагавора? Настаўнікі могуць самі напісаць зварот у аддзелы культуры ці ўпраўленне культуры з просьбай разабрацца ў сітуацыі.*

Вядома, зразумець чыноўніка можна. Нават калі ён ў курсе ўсіх гэтых пабораў, то ніколі не прызнаецца, бо, па яго ж словах, *"мы жывем у прававой дзяржаве".*

Але вось хацелася б зразумець нашых настаўнікаў, якія пры сваёй вельмі невялікі зарплаце "выпісваюць" "СБ" і "Настаўніцкую", у свае выходныя вядуць дзяцей на розныя афіцыёзныя мерапрыемствы, падвяргаюцца пастаянным зняважаннем, пачынаючы ад дырэктара і заканчваючы разнастайнымі праверальшчыкамі, ідэолагамі і пр., і якія яшчэ пры гэтым вымушаныя "дзяліцца" сваім заробкам з дзяржструктурамі. Аргумент – баяцца страціць працу – пры т а к о й працы нейк не пераконвае...

А наогул цікава, у нас толькі настаўнікі ўсе такія бесхрыбетныя і гатовыя цярпець, нават калі іх, вобразна кажучы, "пысай у бруд" ці гэта нацыянальная рыса беларусаў, незалежна ад прафесіі?

***Сяргей ПІСЬМЕННЫ.***
Паводле onliner.by

# Супраць СНІДу

**У Магілёве бібліятэкараў вучылі засцерагацца ад мужоў-гастарбайтэраў**

Жанчын папярэджваюць, што іх мужы, якія вяртаюцца з заробкаў за мяжой, могуць прывезці з сабой ВІЧ.

– *У Магілёўскай вобласці ўжо выяўлена 815 хворых ВІЧ,* - паведаміла загадчыца аддзела прафілактыкі ВІЧ і СНІД Магілёўскага абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Алена Дзянісава. – *Мужчыны-магілёўцы працуюць*



*у Украіне і Расеі, і там нярэдка знаходзяць сумнеўныя забавы. А пасля гэтага прывозяць дадому «сюрпрыз» у выглядзе венерычных хвароб, а то і горш – ВІЧ. Таму мы вырашылі лішні раз папярэдзіць жанчын, нагадаць аб сродках засцярогі і наступствах бязладных палавых сувязяў. Вельмі спадзяемся, што бібліятэкары распаўсюдзяць гэтую інфармацыю сярод чытачоў.*

**Алесь СУВОРАЎ.**
Паводле "КП" у Беларусі".

# Забароняць?

Чарговы эксперымент чакае сферу гандлю. У Магілёве могуць забараніць продаж адзення і абутку на адкрытых рынках. Калі рашэнне будзе прынята, не выключана, што на такі крок пойдуць і ў іншых гарадах краіны.

Упраўленне гандлю і паслуг Магілёўскага аблвыканкама выступіла з ініцыятывай рэфармаваць сістэму рынкаў. Асноўная прапанова – перанос гандлю адзеннем і абуткам ў крытыя гандлёвыя цэнтры. На адкрытых рэчавых рынках будуць прадавацца толькі рэчы, якія былі ва ўжыванні, прадукцыя рамеснікаў.

***М.Б.***

# Палыкавіцкая крыніца

*( Заканчэнне. Пачатак у № 16 - 19 )*

Храм пабудаваны на дабрачынныя ахвяраванні пары з Германіі – Алы (родам з Палыкавічаў) і Дытэра Арнольда, а таксама на сродкі парафіі.



Капліца вельмі падобная на тую, што стаяла тут раней. Тыя ж пяць купалаў, сцены з чырвонай цэглы, ажурны дах над крыніцай. Іконы тыя ж – выява Хрыста на троне, у іканастасе – Збавіцеля і Багародзіцы, вялікапакутнікаў Параскевы і Георгія Перамаганосца, свяціцеля Георгія Каніскага, лекара Панцеляімона. Дадаўся толькі абраз Мікалая ІІ, якога нядаўна кананізавалі.

Штогод 14 лістапада адзначаецца дзень Святой вялікапакутніцы Параскевы. У апошнія гады асабліва людна на Палыкавіцкай крыніцы ў свята Вадохрышча. Дзень Хрышчэння ў Палыкавічах стаў і сямейным святам. Палыкавіцкая крыніца – помнік прыроды рэспубліканскага значэння.



Палыкавічы ўнесены ў шэраг турыстычных маршрутаў. Так, у мінулым годзе быў распрацаваны маршрут *"Апошняя сталіца Расійскай імперыі».* У ім вёска з'яўляецца адным з ключавых пунктаў. Палыкавічы са сваімі святынямі арганічна ўваходзяць у ансамбль гістарычных, культурных і архітэктурных помнікаў Магілёўшчыны.

***Юлія БРУК.***

"СПРАВА"
Инфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі".

Заснавальнік і адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку *30.11.2012. 21.00.*
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.